# Самапомач

Беларуская Каапэратыўна — Гаспадарчая Часопіс

Год III. | Вільня, Студзень 1934 г. | № 1.

Хай злыдні над намі,
скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!..

ЯНКА КУПАЛА.



Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамачу

Джордж РЭСС ЭЛЬ
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ № 1 (18).



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | | |
|---|---|---|---|
| A, a — А, а. | H, h — Г, г. | Ł ł, — Л, л. | Š, š — Ш, ш |
| B, b — Б, б. | Ch, ch — Х, х. | M, m — М, м. | T, t — Т, т. |
| C, c — Ц, ц. | I, i — І, і. | N, n — Н, н. | U, u — У у. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | J, j — Й, й | Ń, ń — НЬ, нь. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| Č, č — Ч, ч. | Ja, ja — Я, я. | O, o — О, о. | V, v — В, в. |
| D, d, — Д, д. | Je, je — Е, е. | P, p — П, п. | Y, y — Ы, ы. |
| E, e — Э, э | Ju, ju — Ю, ю | R, r — Р, р. | Z, z — З, з. |
| F, f — Ф, ф. | K, k — К, к. | S, s — С, с | Ž, ž — Ж, ж. |
| G, g — Г, г. | L, l — ЛЬ, ль. | Ś, ś — СЬ, сь | Ź ź — ЗЬ, зь. |

// Samapomač

BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŬNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

Самапомач

| Hod III. | Vilnia, Studzień 1934 h. | Nr 1 (18). |
|---|---|---|

## З НОВЫМІ СІЛАМІ!

У новы год цяжкай, саматужнай коопэратыўнай працы ўваходзім з сьведамасьцю вонкавых і нутраных перашкодаў і сваіх собскіх магчымасьцяў.

Небясьпека зьмены коопэратыўнага закону у Новым 1934 годзе вырасла ўжо да формаў сусім рэальных: Урад перадаў у Сойм свой праект зьмены коопэратыўнага закону, які пры сучасным палітычным ладзе ў кожную пару можа ўжо стацца законам. Дзеля гэтага напамінаем яшчэ раз усіх зацікаўленых коопэрацыяй, каб ня сьцягівалі з закладаньнем прыгатаваных коопэратываў, бо заўтра можа быць ужо позна.

Другая вонкавая небясьпека спэцыяльна для беларускай коопэрацыі выклікана доўгім і сыстэматычным цкаваньнем, ведзеным пэўнымі нават „беларускімі" коламі, працу нашай саматужнай работы, а разьлічаная на людзкую нясьведамасьць. У выніку гэтага паведамляюць нас з усходніх паветаў аб труднасьцях, а нават і немагчымасьці атрыманьня дазволу на скліканьне хоць-бы звычайнага арганізацыйнага коопэратыўнага сходу, калі выявіцца наперад, што сход гэткі бяз ніякіх апякуноў ладзяць самі мясцовыя людзі, якія не выракаюцца сваей беларускасьці.

Але гэтыя якраз цкаваньні і імі выкліканыя перашкоды і даводзяць Народ да сьведамасьці таго, хто з чым да яго прыходзіць. Сягоньня трэба сьцьвердзіць, што коопэратыўнае ўсьведамленьне на заходне-беларускіх землях за мін. год вельмі ўзрасло і бязупынна расьце. Статыстыка-ж выказвае, што лік коопэратываў заснаваных за мінулы год на беларускіх землях пад Польшчай — найбольшы ў параўнаньні з іншымі землямі тэй-жа сучаснай Польшчы.

З гэтага здаровага водруху нашага народу павінен і сапраўды цешыцца кожны, хто разумее, чым для жыцьця Народу ёсьць свая собская гаспадарчая аснова, свая падстава і хто гэтага для нашага Народу сапраўды жадае. — Але адно толькі цешыцца гэта йшчэ мала.

Трэба ўсімі сіламі старацца гатовыя беларускія коопэратыўныя пляцоўкі замацаваць і прыгатаваць паўставаньне пляцовак новых. Работа гэта не аднаго чалавека, а нават не аднаго пакаленьня. Замацаваньне коопэратыўных пляцовак ужо існуючых робіцца адпаведным напамінаньнем старых сяброў аб патрэбе дакладнага выконваньня імі ўсякіх сяброўскіх абавязкаў і здабываньнем сяброў новых, асабліва спасярод моладзі — мужчынскай і жаночай. Гэта ўсё разам узятае ёсьць аднэй чыннасьцю, ведамай як **коопэратыўнае ўсьведамленьне.**

Коопэратыўная сьведамасьць патрэбна ўсім сябром коопэратываў, але яе не хапае, каб самую арганізацыю павесьці: на гэта патрэбна **фаховасьць.**

„Самапомач", хоць паўстала і працуе саматужна, і хоць вытрымлівае злосныя нападкі з боку ўсіх, каму сяньняшняя галіта беларускага Народу на руку, — патрапіла за мін. год забясьпечыць для беларускай коопэратыўнай думкі новыя магчымасьці кооп. ўсьведамленьня і здабыцьця фаховасьці. Сама часопісь у наступаючым годзе сталася даступнай кожнаму, а асабліва коопэратывам, якія, пакольні яны беларускія, мусяць абавязкава падпісацца на адзін прынамся **камплект** „Самапомачы" (варункі на 2-ой бач. вокладкі).

Здабываньне фаховай асьветы, так канешнай для ўдачнага кіраваньня справай, таксама ўдаступнена сяньня кожнаму беларусу, бо можна ўсё гэта здабыць на бясплатным **Завочным Курсе Коопэрацыі** (варункі на 3-яй бачыне вокладкі).

Аднак і сьведамасьць і фаховасьць мала памогуць нашай коопэрацыі датуль, пакуль яна будзе йсьці ўразброд: беларускія коопэратывы тады толькі будуць сапраўды коопэратывамі, калі і самі злучацца ў свой **Беларускі Саюз Коопэратываў.** Прыгатаваўчыя працы „Самапомач" ужо вядзе і кожная беларуская коопэратыва павінна зараз-жа да нас у гэтай справе адклікнуцца.

Да ўсяго гэтага трэба дружна брацца ў Новым Годзе — з новымі сіламі!

*Далучанымі да гэтага нумару «Самапомачы» бляккетамі конта П. К. О. № 180.485 просім ўсіх неадкладна аплаціць падпіску на 1934 год.*

*Адміністрацыя „САМАПОМАЧЫ".*

# Pierad Ahulnymi Schodami ŭ kooperatyvach.

Zbližajecca para ahulnych hadavych schodaŭ, para, kali ahuł siabroŭ bližej padchodzić da spraŭ svaich kooperatyvaŭ. Heny mament ułady kooperatyvaŭ pavinny vykarystać u adpaviedny sposab. Zatrymajemsia dziela taho krychu na tych pytańniach, jakija, panašamu, pavinny być parušany na čarhovych ahulnych schodach.

Pieršaje, i samaje hałoŭnaje, heta sprava razbudovy kooperatyvy, inakš — sprava zdabyćcia novych siabroŭ i novych kapitałaŭ. Pry abhavaryvańni planu pracy treba źviarnuć na heta asablivuju ŭvahu. Sučasny mament, mament suśvietnaha kryzysu, jość najbolš adpaviednym dla razbudovy kooperacyi, bo ŭpadak pryvatnych kapitalistyčnych pradpryjemstvaŭ adčyniaje prad kooperacyjaj novyja mahčymaści, novyja haryzonty. Patrebny tolki śviadomaść i dobraja vola siabroŭ. Treba ich zacikavić i ŭciahnuć u pracu. Adnej z hetakich prac moža być **zdabyvańnie novych siabroŭ**. Dziela hetaha treba na schodach rabić pastanovy abaviazvajučyja kožnaha siabru **zdabyć dla kooperatyvy ŭ biahučym hodzie choć ad naho novaha siabru**. Paśla hetakich pastanoŭ Nahladnyja Rady pavinny tolki dapilnavać, kab pastanova była vykanana.

Druhim aktualnym pytańniem źjaŭlajecca sprava **ŭłasnaha Sajuzu**. Prajekt novaha kooperatyŭnaha zakonu, jaki biazumoŭna chutka projdzie praz Sojm i zrobicca zakonam, pradbačyć roznyja represii ŭ adnosinach da kooperatyvaŭ nienaležačych da sajuzaŭ. My pryznajemo aŭtoru prajektu poŭnuju słušnaść, što vialikaja kolkaść polskich „dzikich“ (niesajuznych) kooperatyvaŭ źjaŭlajecca nienarmalnaściu i pahražaje kooperatyŭnamu ruchu, ale nia možam pryznać hetaha ŭ adnosinach da biełaruskaje kooperacyi, jakaja siłaju faktaŭ zmušana zastavacca „dzikoj“ da mamentu stvareńnia ŭłasnaha sajuzu z pravami revizyjnymi, bo naležańnie da polskich revizyjnych sajuzaŭ źjaŭlajecca niebiaśpiečnym i pahražaje stratraju nacyjanalnaha abličča. Ličačysia z stvaryŭšymsia pałažeńniem, Ahulnyja schody pavinny abhavaryć parušanuju spravu i **vynasić pastanovy ab patrebie załažeńnia Biełaruskaha Revizyjnaha Sajuzu Kooperatyvaŭ i ab ustupleńni ŭ heny ŭ razie jaho paŭstańnia**.

Dalej, zaklikajem usie Biełaruskija kooperatyvy ab **pieraniasieńni ŭ „Samapomač“ usich abviestak**, jakija vymahajucca zakonam i statutam. Dziela hetaha rabicie na Ahulnych schodach, pa miery mahčymaści, pastanovy ab źmienie adpaviednych §§ svajho statutu. Nie zabudźcie adnačasna i ab **padpiscy na kamplekt „Samapomačy“**.

Treba pamiatać, što roskvit kooperatyvy duža zaležyć ad jakich pracaŭnikoŭ. Fachova padhatavanyja pracaŭniki heta adna z pradumovaŭ dobraha raźvićcia kooperatyvy. Majučy heta na ŭvazie redakcyja „Samapomačy“ sarhanizavała **„Zavočnyja Kursy Kooperacyi“**. Kožnaja kooperatyva pavinna zapisać na he-

---

# Коопэрацыя ў Чэхаславаччыне. (2)

*Коопэрацыя земляробская.*

Спаміж дванаццацёх саюзаў земляробскай коопэрацыі ў Чэхаславаччыне, якія ўваходзяць у склад „Цэнтрокоопэратыву“ — галоўнага саюзу ўсей земляробскай коопэрацыі ў Краю, — восем саюзаў чэхаславацкіх, тры нямецкія і адзін польскі. З чэскіх саюзаў найбольшы і найстаршы — *„Ustredni Jednota Hospodarskych družstev v Praze“*. Земляробская коопэрацыя ў сучаснай Чэхаславаччыне вырасла з коопэрацыі крэдытовай, якая і дагэтуль, разам з коопэратыўным страхаваньнем, займае першае месца што да ліку арганізаваных адзінак (коопэратываў). Крэдытовая коопэрацыя („кампэлічкі“) навучыла чэскага селяніна перадусім ашчаджаць і карысна гаспадарыць сваім уласным грашом: гаспадараньне грашмі пазычанымі нязраўнана цяжэйшае, а для нямаючага жыцьцёвага досьледу — і небясьпечнае.

На коопэрацыі ашчадніцка-крэдытовай, як на фундаманце, расьлі і растуць коопэратывы для агульнага закупу і збыту (*Hospodarska družstva skladištni*), якія маюць за задачу дастаўляць сваім сябрам усё тое, што толькі яны ў гаспадарцы патрабуюць: штучныя гнаі, сяўбавое насеньне, паша, вуголь для топліва, каламазь, аліва, жалеза і інш. і прымаць ад іх на продаж такія вырабы, як усякае збожжа, каторае прад выхадам на рынак чысьціцца і сартуецца на сумысных машынах. Гаспадарчыя выгады такой куплі і прадажы — зразумелыя. Акрамя таго пры коопэратыўных закупах заўсёды забясьпечана якасьць тавару, а ўсякі хто гэтак тавар купляе, не выстаўляецца на спакусу жыць у доўг, бо за ўсё мусіць плаціць гатоўкай. У найгоршым разе на аплату коопэратыўна куплянага тавару можна ў мясцовай коопэр. касе атрымаць выгодную пазычку.

Сёньня ўвесь амаль гандаль чэскага земляроба ідзе праз коопэратывы для агульнага закупу і збыту, арганізаваныя ў свой фаховы саюз *„Kooperativa“*. Гэткіх коопэратываў на 1.I.1932 г. было 348, больш-менш па аднэй у павеце. Вышыня паю ў гэткай коопэратыве прад вайной раўнялася больш-менш цане 1½q (150 кілё = 9 пудоў) жыта; сягоньня — пераважна 100 чэскіх крон (26 залатовак). Сябра коопэратывы мусіць звычайна ўпісаць па аднаму паю на кожныя тры гэктары зямлі.

nyja Kursy svaich pracaŭnikoŭ, a **Ahulny schod pavinien asyhnavać patrebnuju dziela hetaha sumu.**

Pry padziele nadvyžki (zysku) treba pamiatać jak ab svaich kulturnych patrebach, tak i ab biełaruskich kulturna-aśvietnych patrebach naahuł. Da apošnich naležyć patreba stvareńnia **biełaruskaha kooperatyŭnaha vydavieckaha fondu**: treba-ž vydać svaje biełaruskija statuty, rehulaminy i inš. druki.

Nivodnaja biełaruskaja kooperatyva nia moža abyjści moŭčki i patreb biełaruskaha školnictva. Treba pamiatać **ab biełaruskaj vučnioŭskaj moładzi,** jakaja ŭ suviazi z pieracho dam biełaruskich himnazijaŭ na pałažeńnie škoł dziaržaŭnych, apynułasia ŭ krytyčnym pałažeńni z pryčyny vysokaj apłaty za navuku (220 zł. u hod). U analohičnym pałažeńni znachodzicca i **biełaruskaje studenstva**, jakoje nia maje nijakaha padtrymańnia. Nia budziem kazać, bo heta i tak kožnamu dobra viedama, što moładź — naša budučynia, i dziela hetaha abaviazak kožnaha śviadomaha biełarusa, a tym balej kožnaha Biełaruskaha kooperatyvu padtrymać u mieru mahčymaści našuju moładź. Asyhnavanyja sumy moža pierasyłać na isnujučyja dva fondy: adzin pry Biełaruskim Nacyjanalnym Kamitecie ŭ Vilni (fond dla dapamohi studentam), a druhi pry Biełaruskim Kredytnym Kooperatyvie (daŭniej Koop. Bank) dla dapamohi vučnioŭskaj moładzi i studenstvu.

Na zakančeńnie jšče adna aktualnaja sprava dla spažyvieckich kooperatyvaŭ. Pavodle statutu hetkaja kooperatyva zvyčajna maje prava **pradavać tavar nie siabrom tolki z dazvołu ahulnaha schodu**. Nažal, daloka nia ŭsie kooperatyvy zrabili ŭ siabie adpaviednyja pastanovy na schodach. Ułady skarbovyja pry apadatkavańni zvaračvajuć na heta vialikuju ŭvahu i časta, dziela adsutnaści hetakaj pastanovy, nie pryznajuć kooperatyvam padatkavych palohak. Papieradžajučy ab hetym radzim na bližejšym ahulnym schodzie zrabić pastanovu dazvalajučuju pradažu nie siabrom, a ŭ tych kooperatyvach, hdzie takoj pastanovy jšče nia było, dyk asobnaju pastanovaju treba zaćvierdzić užo dakananyja pradažy jak u minułym hodzie, tak i biahučym. — Ale najlepš by było, kab usie chto kuplaje ŭ kooperatyvie, u hetym 1934 h. stalisia siabrami samoj kooperatyvy.

*M—č.*

# 30-tyja ŭhodki Revizyjnaha Sajuzu Ukrainskich Kooperatyvaŭ (RSUK).

15 i 16-ha studnia s. h. Ukrainskaja kooperacyja pad Polščaj uračysta śviatkavała 30-tyja ŭhodki pracy svaje ahulnaje ideolohična arhanizacyjnaje i revizyjnaje centrali, jakoj jość **„Ревізійний Союз Українських Кооператив“**, viedamy ahulna ŭ skaročańni jak **„РСУК“**. Śviatkavańnie było razłožana na dźvie čaści: 15-ha studnia adbyŭsia ŭ zali Ramieśnickaj Pałaty ŭ Lvovie Ahulny Schod siabroŭ RSUK-a, a 16-ha studnia ŭ zali Vialikaha Mieskaha Teatru ŭ Lvovie adbyłasia Jubilejnaja Akade-

---

Тых опэрацыяў, якіх *„Kooperativa“*, як коопэратыва, ня можа выканаць, выконвае некоопэратыўнае, але ад коопэратываў залежнае гандлёвая супалка *„Agrasol“*.

З вытворчых земляробскіх коопэратываў у Чэхаславаччыне, на асаблівую ўвагу заслугоўваюць коопэратыўныя „гаспадарчыя бравары“. Выраб сьпірту ў гэтых броварах ёсьць не галоўнай, а пабочнай чыннасьцю; галоўнай задачай гэтых бравароў ёсьць добры збыт браварнянага сырца—бульбы і атрыманьне цэнных для пашы адпадкаў — брагі. Гэта дае магчымасьць добра выкормліваць жывёлу, якая дае тады больш і лепшага гною; поле пасьля гэтага лепш родзіць і павялічваецца дабрабыт у гаспадарцы наагул. Яшчэ аўстрыяцкія законы вымагалі ад коопэрат. бровару, каб яму быў прызнаны г. зв. „гаспадарчы характар“. Варункі да гэтага былі наступныя:

1. Коопэратыўны „гаспадарчы бровар“ мусіў найменш 51% спатрабаванага сырцу (бульбы) мець ад сваіх сяброў (членаў) і гэтым-жа сябром аддаваць брагу;

2. Сярэдняя дзенная вытворчасьць не магла перавыжшаць 7 гэкталітраў сьпірту (у гэктолітры ёсьць 100 літраў), а за год (ад 1.IX да 31.VIII) найбольш 1680 гэктолітраў. Дальшай выгодай коопэр. бравароў былі выплачываныя г. зв. боніфікаты (пэўная сума грошаў) за кожны гэктолітр сьпірту вывезенага з бровару.

Да вайны чэхі мелі 32 коопэрат. бравары, а на 1.І.1932 г. лік іхны выносіў ужо 326.

Чэхаславаччына слыве з свайго цукроўніцтва, якое тут разьвілося далёка раней, чым сюды дасталася думка коопэратыўная. Дзеля гэтага, а таксама і дзеля таго, што ўнутраная абстаноўка навачасных цукраварняў каштуе аграмадныя сумы, цукраварніцтва чэскае дагэтуль нескоопэратызавана. Але чэскія сяляне, каб мець уплыў на цукроўні, арганізаваліся ў саюз прадуцэнтаў цукровага бурака і імем саюзу штогод падпісваюць з цукраварнямі гэтак званую колектыўную (агульную) умову, у каторай устанаўляюць сталыя цэны на буракі і іншыя варункі даставы сырца (бурака) і атрымліваньня цукраварніцкіх адпадкаў, цэнных для пашы (бурачаныя выціскі і мэляса) і для гнаеньня (сатурацыйны кал).

Падобна ўладзіліся чэскія сяляне і з промыслам піваварскім: коопэратыўных піваварняў у ЧСР дагэтуль ёсьць толькі некалькі, а рэшту правоў сваіх бароняць чэскія ся-

mija, pry ŭčaści operovych śpievakoŭ i ukrainskaha choru „Surmy". Na Akademii čytaŭ referat zakładčyk Revizyjnaha Sajuzu i jahony da 1920 h. staršynia Dr. Kost' Łevyćkyj.

Na śviatkavańnie zyjšłosia šmat pradstaŭnikoŭ jak ukraincaŭ, tak i čužych narodaŭ. Naša redakcyja, budučy zaprošanaj na hetu ŭračystaść, pradstaŭnika svajho ŭ Lvoŭ vysłać nie mahła z-za niastačy na heta adpaviednych srodkaŭ i zmušana była ahraničycca vysłańniem piśmiennaha pryvitańnia.

* * *

RSUK radavod svoj vyvodzić z t-va „Krajevyj Sojuz Revizijnyj", statut jakoha zaćvierdžany byŭ 18.I.1904. Siabrami-zakładčykami Sajuzu byli dźvie da taho času ŭžo isnujučyja ukrainskija kooperatyŭnyja centrali: „Krajevyj Sojuz Kredytovyj", „Narodnia Torhovla" i kala 70 ŭsiakich kooperatyŭnych adzinak pieršaha stupnia ŭ pradvajennaj Haliččynie. Pieršuju-ž centralu ukrainskaj kooperacyi, uspomnieny ŭžo Krajevyj Sojuz Kredytovyj, zasnoŭvali ŭ 1898 h. usiaho 18 nižejšych kooperatyvaŭ, jakija mieli 6.500 siabroŭ i 250.000 aŭstryjackich kron ułasnaha fondu (u hetym 10 prac. rezervovaha fondu). Ad času arhanizavańnia hetaj pieršaj centrali, jakaja mieła i zadańni arhanizacyjna-instrukcyjnyja, pačali chutka zasnoŭvacca novyja kooperatyvy, tak što źjaviłasia patreba arhanizavańnia centrali bolš šyrokaj, jakoj i byŭ Sajuz Revizyjny.

Suśvietnaja Vajna źniščyła amal uvieś darobak ukr. kooperacyi, tak što pa vajnie pryšłosia pačynać blizu ŭsio ad pačatku, a sam pačatkavy Krajevyj Sojuz Revizijnyj pieramianiŭsia ŭ siańniašni Revizijnyj Sojuz Ukrainśkych Kooperatyv, jaki źjaŭlajecca siańnia ŭsieukrainskaj kooperatyŭnaj centralaj i abjednyvaje 3.134 kooperatyvy.

* * *

Ščyra žadajem, kab „RSUK" i na dalej byŭ dla ukrainskaj kooperacyi nia tolki najlepšym vučycielam, ale i abaroncam, a samoj kooperacyi—najpamyśniejšaha rožvitku! *Red.*

# Vačavidnaja karyść.

*Jak pamahli sabie ŭkrainskija sialanie pry pomačy kooperacyi.*

Ukraincy, taksama jak i my biełarusy — narod pieravažna drobna sialanski i kab abahnać štodziennyja patreby, ad viakoŭ pradavali ŭ najbližšym miastečku pieradusim małako, masła, syry, jajki.

Ale da niadaŭna ŭkrainski małačarski tavar mieŭ na rynku možna skazać najhoršuju marku i pradavaŭsia za žabračyja hrašy. Naprykład masła halickich ukraincaŭ na zahraničnym rynku słyło jak „halickaja kałamaź" datul, pakul spravu vyrabu i pradažy masła nia ŭziali ŭ svaje ruki svaje-ž małačarskija kooperatyvy zhurtavanyja ŭ „Masłasajuzie". Siahońnia masła tych-ža sialan ukrainskich, ale vyrablenaje pad dahladam „Masłasajuzu" i im ža pradavanaje, maje na krajovych i zahraničnych rynkach vielmi dobruju słavu i jaho ŭsiudy rady kuplajuć.

Zusim toje samaje dziejecca i z jajkami. Paŭsotni hadoŭ handlavali na Ukrainie pryvatnyja handlary, zarablajučy na hetym vialikija sumy na škodu i niekaryść ziemlaroba. Haspadyni adčuvali podśviadoma, što kupcy-pryvatniki ich ašukivajuć; nia mohučy adnak znajści inšaha vychadu, płacili „dobrym za nadobnaje": voś jajko aby jajko — ci vialikaje ci małoje, śviežaje ci zahnojenaje — usio adno „jajko". I tut dajšło — musiła dajści! — da taho, što ŭkrainskija jajki na rynku mieli canu „hniłoj ryby".

---

ляне праз фаховыя арганізацыі прадуцэнтаў сырца: ячменю і хмелю.

Коопэратыўныя малачарні ў Чэхаславаччыне ў сэнсе арганізацыйным і тэхнічным пастаўлены вельмі высока. На 1.I.32 г. было іх 422.

Урэшце ня можна ня ўспомніць так цэнных для поступу чэхаславацкае вёскі коопэратываў электрыфікацыйных, заданьнем якіх ёсьць даць вёсцы электрычную энэргію і на асьвятленьне і на пагон розных машынаў. Толькі лічаныя куткі чсл. краю ня маюць сяньня йшчэ электрычнасьці. І на ўсё гэта сяляне не чакалі помачы дзяржавы, але зрабілі гэта сабе сваімі сіламі, самапомаччу. Гэткіх электрыфікацыйных коопэратываў у Чэхаславаччыне на дзень 1.I.32 г. налічвалася 2.058, а ў 1910 г. іх было толькі 10 (дзесяць!).

Абраз чэхаславацкай земляробскай коопэрацыі ня быў-бы поўным, калі-б ня ўспомніць аб коопэратыўнай працы культурнай. Высока разьвітая коопэрацыя патрабуе добра прыгатаваных працаўнікоў, каторых школіць у 1919 г. заснаваная аднагодняя Вышэйшая земляробска коопэратыўная школа ў Празе. Акрамя яе ёсьць цэлы рад сьцісла-фаховых завочных курсаў (карэспандэнцыйных): амэрыканскай бугальтэрыі, бугальтэрыі ў Кампэлічках (чэскія раіфайзэнкі), завочны курс білянсаваньня і г.д. Сталую лучнасьць з усімі сябрамі коопэратываў утрымоўваюць: тыднёвік *„Zemědělské Družst. Listy"* (39-ты год выданьня), месячнік *„Naše Kampelička"* (ад 1909 г.) і блізка сотня ўсякіх дробных і большых кніжак аб коопэрацыі.

Дзеля дальшай прапаганды коопэрацыі апрацаваны фільмы, асобны для коопэрацыі крэдытовай, асобны для коопэрацыі агульнага закупу і збыту, асобны для коопэрацыі малачарскай, асобны для коопэратываў электрыфікацыйных.

### *Коопэрацыя работніцкая.*

Гэтым імем называюцца ў Чэхаславаччыне коопэратывы пераважна спажывецкія, будаўляныя і будаўляна-памешканевыя, якія паводле ліку займаюць месца зараз-жа пасьля коопэратываў крэдытовых, пераважна земляробскіх. Пасьля здабыцьця незалежнасьці Чэхаславаччыны асабліва ўзрасьлі лікам і сілай коопэратывы будаўляныя і будаўляна-памешканевыя, якія з канцом 1928 г. мелі на ўласнасьць 13.465 гэтак званых ся-

Pryšła adnak para roźvitku novačasnaj ukrainskaj kooperacyi, jakaja i zaniałasia spravaj zbytu jajok: interas pašoŭ inakš. Siahońnia centrala sielska-haspadarčaj ukrainskaj kooperacyi „Centrasajuz“ raz-u-raz dastaje zakazy z usich kutkoŭ — i z zahranicy! — na jajki, z vyraznym varunkam, kab jany byli „ŭkrainskija“, heta znača vialikija i śviežyja. A kali nie chapała takoha tavaru, jakoha rynak vymahaŭ, dyk „Centrasajuz“ nie čakaŭ z założanymi rukami, ale zaniaŭsia vučyć i pamahać siabrom svaich kooperatyvaŭ, jak majuć pastupać, što rabić, kab zdavolić vymohi rynku i samym mieć słušny zarabotak. Voś-ža z hetaj metaj u 1932 h. było raździelena bolš jak 2.000 štuk jajok ad zavodnych kurej na na siedžvańnie i 25 pieŭnikaŭ. Kaštavała heta dla sarhanizavanych kooperatyvaŭ usiaho tolki pa 3 (try) hrašy ad skryni eksportavanych jajok, a vynik byŭ toj, što siahońnia ŭžo jość šmat kurej, jakija niasuć dobryja, bo vialikija i darahija jajki (vahi pa 7 dkg, zamiest dahetulašnich 5 dkg, h. zn. papraŭka zrazu na 40%).

Słovam, kab nia było ŭ ukraincaŭ svajej ukrainskaj kooperacyi, dyk pa ichnych siołach i siahońnia jšče vyrablali-b „halickuju kałamaź“, kury niaśli-b — varonija jajki, a na ŭsim hetym zarablali-b roznyja p’jaŭki-pierakupščyki vialikija hrošy, bo im tolki ab heta i chodzić. Kooperacyja-ž starajecca i ab navučeńnie svajho čałavieka, jak dobra sam tavar pryhatavać, kooperacyi chodzić ab interas samoha haspadara-vytvorcy. Voś dziela čaho zasłuhoŭvaje kooperacyja siarod sialanstva naležnaj uvahi i zastasavańnia! *K. P.*

# Jašče ab „Бел. Газэце“.

Paśla karotkaha zacišša, padčas jakoha adbyvałasia sproba novych metadaŭ „kooperatyŭnaje“ pracy, ab čym my ŭžo pisali, „Бел. Газэта“ ŭznoŭ pačała svaje naskoki.

U pradapošnim (14) numary jaje źjaviŭsia artykuł pryśviečany spravam kooperacyi, a chutčej susim biassensoŭnym napadam na našu časopiś.

Nia źbirajemsia adkazvać na ńsie niedarečnaści aŭtora artykułu, bo ŭsio roŭna nia možna pierakanać ani jaho, ani naahuł redakcyju „Газэты“, što kooperatyŭny ruch pačaŭsia značna raniej, jak im zdajecca. Nia naša vina, ani zasłuha ŭ tym, što pačynajučy histaryčny ahlad raźvićcia kooperacyi ŭ paasobnych krainach, prychodzicca viartacca za 90—100 hadoŭ nazad, i nia možna abyjści maŭčkom Ročdela, jaki źjaŭlajecca kałyskaju sučasnaj kooperacyi. A toje, što pany z „Бел. Газэты“ ličać „sapraŭdnym razmacham kooperatyŭnaha budaŭnictva“, źjaŭlajecca nie budaŭnictvam kooperacyi, a jejnymi pachovinami, bo hvałt i teror praciŭny samomu duchu kooperacyi.

My nie naležym da katehoryi tych, jakija nadziavajučy na siabie masku „adzinych sapraŭdnych abaroncaŭ pracoŭnych“ tolki duračać naiŭnych ludziej svajej demahohijaj, a ŭ sapraŭdnaści — ustaŭlajuć pałki ŭ kalosy kožnaha hramadzkaha ruchu nakiravanaha da padniaćcia kultury i dabrabytu Narodu.

My nia imkniomsia ŭładać i kamandavać, a chočam tolki abudzić u huščach Naro-

мейных дамкоў з 16.513 памешканьнямі і 1.846 наёмных дамоў з 22.664 памешканьнямі. Спажывецкія работніцкія коопэратывы ня маюць такога разгону і ў ліку нават абніжаюцца. Унутрана аднак і гэта група моцная, бо тут наглядаецца працэс сцаленьня (комасаваньня).

Пачаткамі сваімі работніцкая коопэрацыя ў Чэхаславаччыне сягае 60-тых гадоў мінулага стагодзьдзя, калі закладаліся і пасьля дзеля нястачы фаховага кіраўніцтва дашчэнту разваліліся першыя спажывецкія коопэратывы, гэтак званыя „оулі“. Арганізавана аднак выступілі нанова гэтыя коопэратывы пасьля 1-га заняпаду толькі ў 1907 г., калі быў апрацаваны і прыняты, а 7.IV.1908 г. пацьверджаны статут Саюзу спажывецкіх коопэратываў, сягоньняшняга „*Ustredniho svazu československych družstev*“. Заснавалі гэты саюз 28 прадстаўнікоў ад 20-цёх коопэратываў. — З гэткіх скромных пачаткаў, добрай волі і ахвярнасьці вырасла сягоньняшняя сільная работніцкая коопэрацыя ў Чэхаславаччыне, сьвяткаваўшая між іншым у мін. 1933 г. 25 ыя ўгодкі свайго настарэйшага ўжо ўспомненага саюзу „*USČD*“.

Работніцкая коопэрацыя ў Чэхаславаччыне сягоньня, таксама як і коопэрацыя земляробская, у арганізацыйным сэнсе вельмі неадналітная і павязана ў паасобныя саюзы ў залежнасьці ад тэрыторыі, нацыянальнасьці і нават ад палітычнай ахварбоўкі. Гэткіх саюзаў ідэолёгічных у работніцкай групе чсл. коопэратываў ёсьць шэсьць, з іх чатыры чэскія і два нямецкія. Усе гэтыя саюзы твораць сталы паразумеваўчы камітэт, задачай катарага ёсьць бараніць навонкі супольных інтарэсаў. Акрамя таго ёсьць яшчэ саюзныя гуртоўні, якія ўваходзяць у сталы паразумяваўчы камітэт толькі пасярэдна, праз рэвізыйныя саюзы. Паразумяваўчы камітэт быў арганізаваны перадусім па тое, каб карыстаць з спэцыяльнага фонду сарганізаванага чсл. уладай дзеля зьмяншэньня стратаў, што гаўсталі з пасьляваенных варункаў. Ёсьць надзея, што паразумяваўчы камітэт работніцкіх коопэратываў у Чэхаславаччыне пературыцца ў сталую найвышэйшую арганізацыю работніцкіх коопэратываў наагул, як гэта зрабілі ўсе саюзы коопэратываў земляробскіх, лучачыся ў „Цэнтрокоопэратыў“.

Работніцкія коопэратывы арганізаваныя ў „*Ustr. svazu čsl. družstev*“ сарганізавалі акрамя таго свой собскі Агульны коопэратыўны банк у Празе, сваю собскую коопэратыўную касу дзеля страхаваньня „*Čechoslavia*“ і сваю таварную гуртоўню „*VDP*“ —

du kooperatyŭnuju śviadomaść i žadańnie budavać svajo žyćcio ŭłasnymi biełaruskimi siłami. Čužackija dapamohi za doraha kaštavali ŭžo Biełaruskamu Narodu.

„Беларуская Газэта“ nikoli nie padchodziła ščyra da spravy biełaruskaje kooperacyi, a navat i da spraŭ kulturna-aśvietnych. Usia jaje ŭvaha škiravana była i jość na ahlad suśvietnych padziejaŭ, a žyćciom i balačkami Biełaruskaha Narodu cikaviłasia i cikavicca tolki tady, kali chto-kolečy inšy parušyć henaje pytańnie ŭ niepažadanym dla „Газэты“ napramku. Tady pačynajecca vostraja „krytyka i dakazvańnie“, što nichto niazdolny vyrašyć hetaha pytańnia tak, jak „Бел. Газэта“. Časta „krytyka“ takaja dachodzić prosta da cynizmu, jak heta napr. było ŭ artykule „Па старонках Летапісу“ ŭ spravie kulturna-aśvietnaje pracy. Tut „Бел. Газэта“ prosta zajaŭlaje, što kulturnaja praca pavinna razhladacca tolki z taho punktu hledžańnia, „jakoje miesca zajmaje jana ŭ „našym“ („Бел. Газэтаўскім“) ruchu“, a niasieńnie aśviety ŭ Narod praz „Kursy dla darosłych“ prosta cynična vyśmiejvaje.

Dziŭna paśla hetaha vyhladajuć słovy „Газэты“: „my nia vorahi kooperatyŭnaha ruchu. Nie, my nia vorahi jaho. My damahajemsia praz roznyja formy—i praz kooparacyju — palepšańnia žyćciovych umovaŭ žyćcia pracoŭnych“. Kab heta dy było tak u sapraŭdnaści, dyk nam zastavałasia b tolki pryvitać heny ideolohičny patos „Бел. Газэты“, bo heta byŭby pieršy krok da stvareńnia adzinaha kooperatyŭnaha frontu. Nažal, da hetaha daloka, bo jak možna vieryć u ščyraść kooperatyŭnaj pracy tych, dla jakich paprava dabrabytu źjaŭlajecca tolki pieraškodaju ŭ ich pracy?! Hetaje zapeŭnieńnie „Бел. Газэты“ jość tolki čarhovym ukrytym vypadam suproć kooperacyi z metaju raźbićcia jaje. Raźbivańnie i pravakacyja voś tyja metady, jakimi karystajucca ŭsie tyja, kamu pieraškadžaje biełaruskaja kooperacyja. Tak było raniej, tak robicca i ciapier.

Zatrymajemsia krychu i jašče nad adnym pytańniem. „Бел. Газэта“ ŭvieś čas ličyć „Samapomač“ orhanam to B.Ch.D., to „Klimovičaŭskaje kooperacyi“, a ŭsich, chto maje niešta z našaj redakcyjaj nazyvaje „pryściažnymi“. Nia budziem raźbiracca ŭ tym: karennymi ci pryściažnymi źjaŭlajucca redaktar i supracoŭniki „Бел. Газэты“, ale musim paŭtaryć im toje, što im užo pavinna być dobra viedama ad svaich supracoŭnikaŭ, jakija byli delehavany „Газэтаю“ da nas z metaju raźviedki, što „Samapomač“ źjaŭlajecca orhanam biełaruskaje kooperatyŭnaje dumki i hurtuje kala siabie ŭsich tych, chto choča ščyra pracavać na nivie kooperacyi, niezaležna ad ich palityčnych pohladaŭ. Na hetym palahaje i taja apalityčnaść „Samapomačy“, jakaja tak ujełasia ŭ skuru „Бел. Газэце“.

*Kooperatar.*

---

***Usim, chto nia pryšle padpisnoj płaty vysyłka „Samapomačy“ ad nastupnaha numaru budzie ŭstrymana.***

---

найбольшую прамысловую коопэратыўную цэнтралю ў цэлай Чэхаславаччыне наагул.

Сіла ўсіх 6-ёх рэвізыйных саюзаў работніцкіх коопэратываў на 31.XII.1931 г. прадстаўлялася гэтак: крэдытовых (г. зв. „заложняў“) — 132, спажывецкіх — 741, вытворчых — 368, памешканевых — 463, работн. дамоў — 206, гаспадарскіх — 140, іншых — 9, усіх разам — 2.059. На той-жа дзень сіла гуртоўняў тых-жа работніцкіх коопэратываў выглядала гэтак: сяброў (коопэратываў) — 718, паявога капіталу — 34 міл. кч., рэзэрвнага фонду — 63 міл. кч., гадавы торг — 1.108 міл. кч. — Чыннасьць усіх саюзных работніцкіх коопэратываў у цыфрах на той-жа дзень 31.XII.1931 г. выглядала гэтак: усіх сяброў (фізычных) 1.049.554 чал., паявога капіталу 2 7 міл. кч., рэзэрвнага фонду — 192 міл. кч., сяброўскіх ашчаднасьцяў 642 міл. кч., торг - 2.590 міл. кч.

Прэсавыя органы работніцкай коопэрацыі ў ЧСР: двутыднёвік *„Družstevnik“*, месячнік *„Družstevni Radce“*, *„Der Genossenschafter“*.

---

кч. — крона чэская; за 1 кч. плацяць сяньня гра шоў.

Трэцюю ўрэшце групу коопэратываў у Чэхаславаччыне прадстаўляюць

## *Коопэратывы фамесьніцкія*

Сіла коопэратываў гэтай групы, выражаная ў лічбах, прадстаўляецца найслабей і выглядае паводле статыстычных даных за 1930 г. гэтак: усіх коопэратываў — 1.340, усіх сяброў у гэтых коопэратывах — 94.050 чал. і гадавы торг — 1.131 тыс. кч.

* * *

Гэта сьцісьнены і няпоўны абраз коопэратыўнага жыцьця ў Чэхаславаччыне, які пры магчымасьці дапоўнім дальшымі датамі і фактамі. На заканчэньне трэба толькі зацеміць, што коопэрацыяй дробны чэскі чалавек паўстаў на ногі і коопэрацыяй — стаіць. Але — ён пільна і ахвоча ў коопэрацыі працуе.

Вучэмося гэтай працы і мы, беларусы, бо і нам яна вельмі патрэбна!

***А. К***

# Сельская гаспадарка.

## Конь ці карова?

Можна спадзявацца, што гэтак пастаўленае пытаньне і далучаны абразок шмат у каго выкліча горкую ўсьмешку, а нават і падазрэньне, што нехта там, „у Вільні“ захацеў наругнуцца з людзкой бяды, з людзкога гора. Больш таго: можна спадзявацца, што зараз, як спад зямлі, вырастуць і абаронцы „працоўных масаў“(!), якія будуць суліць „вялікія здабычы социялістычнага (каб не казаць яшчэ выразьней) будаўніцтва“, дзе ўжо і конь не пасьпявае з тэмпам працы і яму на выручку становіцца трактар і г. д. і г. д. Міма ўсё гэта аднак жыцьцёвая сапраўднасьць проста змушае пакуль што хапацца і выпрабоўваць кожны даступны спосаб, які селяніну-земляробу памагае абніжыць кошты ягонае вытворчасьці. Гэтыя кошты вельмі падымае нерацыянальнае стасаваньне запрэжнай сілы наагул і ў малых гаспадарках асабліва.

У песьнях-казках толькі перахаваўся ўспамін аб застасаваньні ў нас „сівога вала“, як запрэжнай сілы ў гаспадарцы. Сягоньня-ж скрось можна ў нас хутчэй спаткаць гаспадарку без каровы, без авечкі ці без парасяці, але конь „мусіць быць!..“ па тое, каб тры чэцьверці году стаяў бяз працы і аб'ядаў дарма гаспадарку. — Ці гэты збытак у малой гаспадарцы на месцы?

Там, дзе апрача абрабленьня пару гэктараў сваей зямлі ёсьць яшчэ „на баку“ нейкая работа з канём, напр. нейкая падзёншчына, на вялікамескіх прадмесьцях, у суседзтве вагзалаў ці якіх іншых праездных і наагул больш рухлівых мясцоў, возка дрэва і г. д., там можа аплаціцца трыманьне каня і ў малых гаспадарках. Але-ж гэта ня правіла, а толькі вынятак: правілам бясспрэчным ёсьць, што трыманьне каня ў малой гаспадарцы ніколі не аплачываецца, бо гэткі конь тут дарма зьядае ўсё, што такая гаспадарка зможа выпрадукаваць.

Як-жа тады быць? — І тут прыходзім да адказу на пастаўленае наперадзе пытаньне: у малых земляробскіх гаспадарках замест каня, як запрэжную сілу, трэба пачынаць ужываць карову.

Каб ня было непаразуменьняў, трэба адразу зазначыць, што ня кожная карова і ня ўсюды можа быць ужывана да запраганьня. Карова наагул цягне больш сваей вагай як сілай. Дзеля таго да запраганьня напрыгодны каровы малыя, лёгкія (ніжэй 400 кілё — 25 пудоў), з слаба разьвітым касьцяком (шкялетам), асабліва ў нагах і ў цэлым задзе. — Каровы чыста малочных расаў (нізінных), якія якраз тым і адзначаюцца, што маюць звычайна слаба разьвіты касьцісты і мускульны апарат, да запрэжнай працы дзеля гэтага не надаюцца. Ня могуць таксама быць ужытымі за запрэжнай працы і каровы з слабымі (мягкімі) капытамі, асабліва ж там, дзе грунты жвіраватыя і тымбольш каменістыя. Не на руку для пашырэньня ў дробных гаспадарках каравячай запрэжнай сілы і церазпалосіца, бо вымагае частых і няраз далёкіх пераездак з поля на поле, а скаціна наагул ёсьць жывёлай выразна павольна (кр кам) ходзячай.



Страх прад стратай на дойнасьці ў працуючай каровы найчасьцей ня мае падставаў, бо нязначны ўпадак (10 - 15 прац.) здараецца толькі трэйчы ў год — пры веснавой і восеньскай сяўбе і пры зьбіраньні з поля— кожны раз не даўжэй месяца часу. Ды і то часовае абніжэньне літровай меры ўдою адплачываецца падняцьцем густасьці (працэнту туку) таго-ж малака. Дагадваюцца, што прычынай большай клустасьці вячэрняга малака ад ранішняга ёсьць таксама дзенны рух каровы-дойкі.—У кожным разе, як толькі карова перастае працаваць, дойнасьць яе варочаецца, нават большай, як была прад тым. Важна пры гэтым адзначыць, што часовая абніжка дойнасьці прыпадае пераважна ў пару гэтак званага перамалочненьня, калі малака бывае наагул больш як у якую іншую пару году і цэны на яго падаюць.—Варункам утрыманьня каровы пры здароўі падчас працы ёсьць адпаведны за ёй дагляд — працаваць не даўжэй 3—4 гадзін запарам, даваць у палудзень трыгадзінную перадышку і не працаваць у гарачыню — і сытнае кармленьне згушчанай (концэнтраванай) пашай, як авёс, збажжовы шрот, бо абымістая паша (сена, салома) займае ў трыбусе (жалудку) шмат месца, патрэбнага для расшыраньня працуючых лёгкіх.

Бясспрэчныя выгады застасаваньня каравячай запрэжнай сілы ў дробнай гаспадарцы абаснаваны з боку як гадаўлянага, так і эканамічнага. Шаблённае касаваньне трохпалёўкі ў многіх мясцох роўназначна з стратай адзінага пасьбішча і скаціна становіцца чуць ня цэлагодні вязьнем найчасьцей негыгіенічных хлявоў. Загрожана гэтым ска-

ціна перадусім найдрабнейшых гаспадароў і дзеля гэткай вось скаціны рух на вольным паветры ў запрэжцы гэта ня толькі карысная гаспадарчая праца, але перадусім гыгіенічна канешны варунак здаровага разьвіцьця і прадукцыі. А пры ўсім гэтым выконваецца якраз праца гаспадарчая, дзеля якой адпадае патрэба дарагога трыманьня сумыснага каня і даецца магчымасьць утрымаць на яго месцы лішнія штукі дзьве скаціны, якія самі сабой даюць карысьць заўсяды і праца каторых прыходзіцца гаспадару зусім дарма.

Натуральна, ня можна вымагаць ад каровы гэтулькі сілы як ад каня і ня можна яе ўжываць напр. да возкі калодаў дрэва з лесу. Але да штодзеннай працы ў гаспадарцы можна ўжываць карову сусім добра. Трэба толькі пастарацца аб адпаведную запрэжную снасьць, якая-б не вязала вольных рухаў скаціны і ня спрычыняла ёй прыкрага болю.

Ужываныя калісьці да запрэжкі валоў ёрмы (ярмо) вельмі нявыгодныя. Усе яны апіраюцца на малую толькі часьць цела і дзеля таго вельмі цісну́ць. Налобныя або цемянныя ёрмы апрача таго не пазваляюць жывёле на вольны рух пры працы. Ярмо нашыйнае апіраецца на вострыя канцы хрыбетняй касьці і таму спрычыняе жывёле боль і нават крывавыя раны. Хамут звычайны, так добра прыгодны для каня, для скаціны не падходзіць, бо гэтаму перашкаджае адстаўшая лапатка і склубленьне касьці пярэдняй нагі. Гэтыя і іншыя нявыгоды змусілі людзей выраблядь сумысныя хамуты для скаціны (для каровы або вала). Адным з гэткіх хамутоў ёсьць хамут паказаны на нашым абразку. Хамут гэты прымерываецца для кожнай штукі скаціны двумя шрубкамі на версе і ланцужком — унізе, каб добра прылягаў да пляча. Клешчы хамута бываюць дзераўляныя, або і сталёвыя, а на споднай часьці падложаны скураныя падушачкі.

Дзеля таго што эфэкт (вынік) працы залежа і ад кірунку запрэжкі, пастронак ад хамута ня йдзе проста да ваза ці плуга, а накіраваны насамперш да падпругі. Практыка даказала, што карова ў гэткай запрэжцы йдзе лёгка і пры малым высілку добра цягне.

Няма сумніву, што ўжываньне гэткага хамута вельмі пашырыла-б застасаваньне дармовай каравячай запрэжнай сілы і ў нас. Трэба толькі да гэтага, каб нехта зараз-жа пацікікавіўся гэткі хамут зрабіць і першы выйшаў з ім у поле. **Трэба толькі пераламаць фальшывы стыд і зрабіць пачатак!** Далей усё пойдзе само.

*А. К.*

# КНІЖКІ

прысланыя ў рэдакцыю „Самапомачы да пераглялу і ацэнкі

1. **Др. Е. Храпливий: За наше хліборобське шкільництво.** Выданьне „Сільського Господаря" у Львове, 1933 г., бач. 46.
2. **Др. Е. Храпливий: Плекання рогатої худоби у Східній Галичині.** Выд. „Сільського Господаря". 1933. Бач. 40 і 7 карт.
3. **Al. i K. Haubold: Program Samokształcenia Spółdzielczego.** Materjały dla kółka społecznego. Warszawa 1934.
4. **Др. Е. Томашевський: Конкурс вгодовування птиці** Выд. „Сільського Господаря" у Львове 1933 г. бач. 16.
5. **Інж. М. Творидло: Про штучні погної** (якія штучныя гнаі, як і да чаго ўжываць). Выд. „Сільського Господаря" Львоў, 1934. Бачынаў 40.
6. **Марко Орач: Новітні чари.** Апавяданьні аб карысьцях разумнай гаспадаркі. Выд. „Просвіта" у Львове, 1934. Бач. 24.

# Наша пошта.

Я. Пятроўскі: Хутчэй старайцеся заснаваць коопэратыву.

Др. С. Грынкевіч: Атрымалі, дзякуем, скарыстаем у наступным нумары. Просьба споўнена.

Говар Арсень: Атрымалі, дзякуем. Пры магчымасьці скарыстаем. Добра было-б, каб Вы штонебудзь апісалі з сваей уласнай практыкі, а ня з кніжкі. Гэта ў Вас павінна выйсьці добра.

Б. К. ў К.: Ці Вы атрымалі дэклярацыі і сябр. кніжкі? Што чуваць?

Асіповіч П.: Нехапаючыя нумары „Самапомачы" высланы. Разумеем Ваша здэнэрваваньне, але ня наша тут віна..

**Dajhapoł M.: Atrymali, dziakujem, adkładajem na nast. numaru.**

Матэлёнак: А шкада, што Вы не запісаны на Курс Коопэрацыі — магло-б гэта для Вас вельмі прыдацца.

**Šulejka Jury: Probny numar „Samapomačy" Vam pasyłajem, ale stała pasyłać časopiś zmožam tolki tady, kali pryšlecie padpisku.**

**Janka Makoŭski: Prysyłajcie svaje apisańni, kali buduć dobrymi, dyk zhoda.**

**J. Č. u L.: Druki Vam vysłany. Ustavy vyšlem zaraz, jak tolki sami ich atrymajem.**

М. С. ў В. Л. і М. Г. ў Т.: Вельмі добра было-б, каб Вы неяк дасталіся ў Вільню.

Засім В. у Ш. На Курс коопэрацыі можаце йшчэ быць прыняты.

„Лучнасьць" к-ва ў Жойдзішках: Ваш пасланец паказваў нам Вашу рэзалюцыю, але пакінуць нам яе адмовіўся. Урэшце істота рэчы ад гэтага не зьмяняецца. Ахвотна верым, што агул сяброў Жойдзішнай к-вы быў, ёсьць і заўсяды будзе беларускім. Інакш і быць ня можа. Бяда толькі, што агул гэты паддаўся небеларускаму кіраўніцтву.

УСІМ, хто дапытваўся ў справе Зав. Курсу Коопэрацыі, а не далучыў паштовай маркі на адказ: праслухаўшыя Курс будуць у першую чаргу магчы знайсьці працу ў адчыняных коопэратывах, ім гэта слушна належыцца. Але дарма высылаць лекцыяў ня можам.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

## Цэны у Вільні

**З збажжова - таварнай і льнярскай біржы ў Вільні з дн. 29.I.1934 г.**

*Цэны за 100 кілё сярэдняй якасьці.*

**Цэны транзакцыйныя:**

| | |
|---|---|
| Жыта I, станд. (адборнае) | 15.35 |
| Жыта II, станд. | 14.95—15.05 |
| Мука жытняя да 55 проц. | 25.50 |
| Мука жытняя да 65 проц. | 20.50 |
| Мука жытняя разовая | —18.00 |
| Семя льняное 90 проц. | 37.98 |

**Цэны орыентацыйныя:**

| | |
|---|---|
| Пшаніца зьбіраная | 21—22 |
| Ячмень на пансак | 14—14.50 |
| Авёс станд. | 13—13.50 |
| Авёс замочаны (з паддожджу) | 12.50—12.75 |
| Мука пшонная, 0000 А. люкс. | 35—38— |
| Мука жытняя сітковая | 17—17.50 |
| Вотрубы жытнія | 10.25—10.50 |
| Вотрубы пшанічныя грубыя | 13—13.50 |
| Вотрубы пшонныя ценькія | 10.75—11— |
| Вотрубы ячменныя | 9 — |
| Грэчка зьбіраная | 20.50—21— |
| Сена | 5—5.50 |
| Салома | 3.75—4— |

### УСЯКІЯ ДРУКІ

патрэбныя пры заснаваньні коопэратываў дастаўляе па сабекошце рэд. „Самапомачы":

1. Сяброўскія дэклярацыі,
   а) беларускія, штука 1½ гр.
   б) польскія „ 3 гр.
2. Сяброўская кніжка
   а) беларуская „ 5 гр.
   б) польская „ 10 гр.
3. Статтты штука па 20 гр.

Закасы выконваюцца толькі па атрыманьні грошаў (праз П. К. О. № 180.485) за самыя друкі. На перасылку трэба ассобна дадаваць ад 25 грашоў да 1.50 зл.—залежна ад заказу.

